Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 16 (41) | Вільня, 6-га ліпня 1934 г. | Год 2-гі.

## Важнае назначэньне,

На высокае і адказнае становішча міністра ўнутраных справаў Прэзыдэнтам Рэспублікі назначаны п. Мар'ян Зындрам-Косьцялкоўскі, яшчэ нядаўна былы беластоцкі ваявода, а пасьля прэзыдэнт сталічнага места Варшавы.

Прыпамінаецца нам, як у дзень беларускага нацыянальнага сьвята 25 сакавіка 1924 году ў мурох Беларускай Гімназіі ў Вільні цяперашні міністар унутраных справаў, а тады пасол на Сойм ад „Wyzwolenia“ п. М. Зындрам-Косьцялкоўскі, вітаючы беларускае сьвята, паміж іншым сказаў: „Прыдзе ў Польшчы да ўлады польская дэмакратыя і тады, панове Беларусы, усё будзеце мець“...

Ці з таго часу пагляд п. міністра Косьцялкоўскага на беларускае пытаньне зьмяніўся?

Нам думаецца, што не, — бо на становішчы беластоцкага ваяводы п. міністар Косьцялкоўскі выказаў вельмі далёка пасунутую толеранцыю да беларусаў у Беласточчыне, дзе акружная ўправа ТБШ увесь час магла працаваць, аж пакуль зусім ня была зьедзена бальшавіцкаю гангрэнаю і праз гэта папала пад закрыцьце яе адміністрацыйнымі ўладамі.

Хочам выказаць надзею, што, як краёвы чалавек (паходзіць з Ковеншчыны), пан міністар Косьцялкоўскі на сваім цяперашнім высокім становішчы выкажа поўнае зразуменьне беларускае проблемы ў Польшчы і будзе імкнуцца знайсьці шляхі да яе вырашэньня.

## Рэволюцыя ў Гітлераўскай Нямеччыне
### і яе прычыны.

1-га ліпня Нямеччына была сьведкаю надзвычайных падзеяў— часьць гітлераўскіх баявых аддзелаў збунтавалася. На чале збунтаваных аддзелаў стаяў, як аказалася, сам начальнік штабу гэтых аддзелаў—Рэм ды іншыя начальнікі і камандзіры розных (штурмовых) баявых адзінак. Змова была загодзь выкрыта і дзеля гэтага бунт у зародку здушаны самым жорсткім спосабам. Былы міністар рэйхсвэры (дзяржаўнае абароны) генерал Шляйхэр растрэлены; акром яго растрэлена шмат начальнікоў паасобных баявых аддзелаў як напр. А. Шнайдгубэр (Мюнхэн), Е. Гайнэс (Сілезія), К. Эрнст (Бэрлін), Г. Гайн (Саксонія) і др.

Па ўсёй Нямеччыне адбываюцца масавыя арышты. Гітлер аб'явіў асаднае палажэньне і сам працуе над канчальным здушэньнем бунту ў Мюнхэне, а яго таварыш міністар Гэрынг распраўляецца ў Бэрліне.

Бунт, як відаць, ужо амаль зусім зьліквідаваны, але ёсьць ведама на гэтым не канец. Факт, што ўнутры гітлероўскай групы адны паўсталі супроць другіх сьведчыць аб тым, што на „шыпке ня ўсё добра“.

Аб тым, што дзеецца ў Нямеччыне распаўсюджвалася і распаўсюджваецца шмат розных плётак, але аднак апошнія здарэньні пацьвердзілі, што *гітлерызм як палітычны кірунак бязумоўна перажывае глыбокі крызыс.*

Прыглядзімся-ж бліжэй да таго, што з'яўляецца прычынаю, такой вострай унутраной барацьбы, якая давяла аж да рэвалюцыі.

Як ведама, Гітлер дайшоў да ўлады дзякуючы таму, што як правадыр так званае народна-соцыялістычнае партыі дэмагагічна кінуў у работніцкія масы сваю радыкальную праграму перабудовы грамадзкага жыцьця. І гэтыя масы пайшлі за ім. Вера масаў у Гітлера—гэта ў значнай меры вера ў тое, што з хвілінаю, калі ён дойдзе да ўлады, для работніцкае масы настане дабрабыт, згіне бяда, нядоля, беззабоцьце і г. д. І што-ж сталася? Ці пакладаньныя надзеі зьдзейсьніліся?

Як дагэтуль то бачым што палітыка Гітлера прынясла шмат неспадзевак як тым, што ён зрабіў, ды яшчэ, здаецца, больш тым, чаго ён не зрабіў.

З аднаго боку і перадусім ён ня выканаў соцыялістычнай часткі свае праграмы, бо выказаў найбольшую асьцярожнасьць у галіне грамадзкай гаспадаркі. І ня дзіва: ён добра разумее, што пры сучасных цяжкіх эканамічных варунках нельга напр. нацыяналізаваць вялікай прамысловасьці — бо ж гэта няўхільна прывяло-б да павялічэньня дэфіцыту а гэта апошняе пацягнула-б за сабою спадак маркі, і поўную гаспадарчую ізоляцыю Нямеччыны, чаго найбольш баіцца Гітлер. Але аднак і тыя скромныя рэформы, якія праведзены ў гэтай галіне нічога добрага не варожаць для вялікіх прамыслоўцаў і выклікае нездаваленьне з іх боку.

З другога боку, хоць вялікім высілкам і за цану вельмі рызыкоўных фінансавых опэрацыяў і ўдалося часткава паменшыць беззаброцьце, дык аднак не зважаючы на гэта, бяды яшчэ поўна і масы таксама ўжо пачынаюць выказваць нездавальненьне.

Аказалася, што грамадзкая дэмагогія зьяўляецца вельмі рызыкоўным аружжам на'т сярод так дысцыплінаванага народу як немцы ды *вельмі небясьпечнай на'т для такога руху як гітлероўскі.*

Найгалаўнейшай-жа прычыной сучаснага гітлераўскага крызысу ёсьць бязумоўна тое, што правесьці ў жыцьцё прынцып роўнасьці ня так лёгка, як гэта на першы пагляд выдаецца.

Пад уплывам вонкавага прымусу і тэрору, дзяржаўная машына спачатку набірае вялікага разгону, якім нейкі час і коціцца, але пасьля, калі колёсальны, спачатку, настрой масаў, ступнёва ападае, уся машына пачынае даваць перабоі. Концэнтрацыйныя лагеры аказваюцца не такім ужо найлепшым узгадаваўчым мэтадам, як уперад гэта некатарым здавалася.

У сучасны мамэнт пакуль што Гітлер перамог, перамог, затапіўшы сваіх нядаўных таварышоў у крыві.

Галасы ўрадовае опозыцыі змоўклі, бо горлы пранізаны сталёвымі штыкамі, вернай пакуль што Гітлеру, рэйхсвэры, але ці надоўга?

*На штыкі можна толькі апірацца, але ўсядзець на іх нельга.*

*Эра.*

## Беларусы і Розэнбэргаўскі плян.

Яшчэ так нядаўна і некалькі раз прыяжджалі ў госьці да нашай хадэцыі паны паслы з УНДО (Украінск. Народна-Дэмакратычнае Аб'яднаньне), урачыста запэўніваючы, „братів-біларусів“, што Украіна ніколі ня будзе ворагам Беларускага Народу. Хадэцыя ў свой чарод, пяяла ім пахвальныя гымны, а ўсіх тых, хто больш трэзва заглядаўся на т. зв. „Беларуска-Украінскае братэрства“ яна няміласэрна бэсьціла на старонках сваёй прэсы. Тымчасам, пад шумок гэных банкетных сьпеваў аб братэрстве, УНДО, па згары ўложанаму пляну, паступова замацоўвала украінскія ўплывы на землях беларускага Палесься, сягаючы аж за Пружаншчыну. Урэшце ў палове чэрвеня сёл. году на старонках УНДОўскага органу „Діло“ у №№ 153 і 154 знаходзім артыкул („Горадня і яе выкапы“), аўтар якога граніцы Украіны перасоўвывае аж у Горадню, адпаведна абасноўвываючы украінскасьць яе паходжаньня. Тут ужо нарэшце і нашая хадэцыя была змушана прызнацца, што пачынаючы з 1931 г. шляхі беларускага вызвольнага руху падаваліся „Ділом“ у „глумным асьвятленьні, што „Діло“ вядзе варожую да беларусаў лінію“, што паганую ролю ўзяло на сябе „Діло“.

Цалком згаджаемся, што паганую ролю ўзялі на сябе украінскія палітыкі, аднак і тут нашая хадэцыя ізноў выказала ці-то сваю слаўную „незалежнасьць“, неправідлова тлумачучы украінскі паход на беларускія землі толькі, як прыпадкова зарваўшайся украінскай экспансыўнасьцю. Справа гэная мае зусім іншы падклад — украінскія палітыкі тут адыгрываюць сваю ролю зусім сьвядома. Справа тут у наступным.

Як ведама, ужо перад сусьветнай вайной тэрыторыя Нямеччыны была за малой для яе шпарка разрастаючагася насельніцтва. Выклікаючы сусьветную вайну, Нямеччына шмат спадзявалася на сваю перамогу і здабыцьцё для часткі свайго насельніцтва новых колёнізацыйных абшараў. Тымчасам гэная вайна якраз наадварот абшар Нямеччыны значна паменшыла. Дзякуючы гэтаму, на працяг апошніх паваенных гадоў у пералюдненай да немагчымасьці Нямеччыне пачынаюць шпарка разрастацца кадры рэвалюцыйна настроенага пролетарыяту, нямаючага ані зямлі, ані працы, ані хлеба. Гэнае бязвыхаднае палажэньне дарэшты пагоршылі крызыс і маскоўскі камунізм. Гітлер у апошнюю хвіліну выратаваў Нямеччыну з пажарышча хатняе рэвалюцыі, разьбіўшы нямецкі камунізм і скіраваўшы нездаволеныя і галодныя масы надпрыросту на жыдоў, каторых аб'весьціў ён за першапрычыну ўсяго зла. Аднак, гітлераўскія палітыкі дасканальна разумеюць, што ўсім гэтым аканчальна-трывалкі нутраны супакой у Нямеччыне яшчэ не здабыты. Насельніцтва разрастаецца і надалей, у той час, як тэрыторыя і працазапатрэбаваньне не зьвялічываюцца, а знача, новыя і старыя кадры нездаволеных могуць у кожную хвіліну пад гымны і пры матэр'яльнай дапамозе маскоўскага камунізму ўзьняць сьцяг рэвалюцыі нанова. Словам, супакой у Нямеччыне зможа наступіць толькі тады, калі: 1) яна здабудзе новыя абшары пад скалянізаваньне часткі свайго насельніцтва — надпрыросту, і 2) спаралізуе так небясьпечны для жыцьця Нямеччыны маскоўскі камунізм.

У выніку гэных меркаваньняў родзіцца розэнбэргаўскі плян.

Не сяньня, то заўтра, Украіна здабудзе сваю незалежнасьць і непадзельнасьць. Унезалежненьне Украіны палежыць на лапаткі маскоўскі камунізм, сваю магутнасьць сяньня абапіраючага перадусім (бо амаль у 75 проц.) на яе натуральных багацьцях. Таксама Украіна можа стацца першарадным рынкам для нямецкага збыту і нямецкага набыцьця украінскага натуральнага сыр'я. З гэтага вынікае, што Нямеччына павінна падтрымаць Украіну ў яе імкненьні да самастойнасьці, ужо гэтым самым адначасна і ўзалежніваючы яе на будучыню палітычна і гандлёва-гаспадарча. Асталось толькі неразьвязаным пытаньне здабыцьця для Нямеччыны калянізацыйнага абшару, бо-ж ясна, аддаваць пад гэта свае абшары Украіна не магла згадзіцца. Аднак, добры выхад знайшоўся і тут. Украінскія палітыкі прыпомнілі сабе, што існуюць землі беларускія Палесься, Кобрыньшчыны, Ваўкавышчыны ды Гарадзеншчыны, якія будуць ідэальным памостам паміж Украінай і Усходнімі Прусамі, паміж морам Чорным і Балтыцкім, ясна тады, калі яны, гэтыя землі, празначацца пад нямецкую калянізацыю. Каб-жа беларусы ня мелі тут ніякіх прэтэнсыяў, трэба толькі даказаць ўкраінскасьць гэтых зямель, а тады Украіна аддасьць іх Нямеччыне, як частку сваёй тэрыторыі. Каб-жа аслабіць чуйнасьць беларусаў, украінскія палітыкі крычаць нам аб „братэрстве”, гітлераўс ія Розэнбэргі гэ-

так-жа крычаць аб даньні нам незалежнасьці, а пад увесь гэны шумок розныя „Ділы“ сыстэматычна даводзяць украінскасьць Палесься і Горадзеншчыны.

Гэткім чынам, Розэнбэргаўскі плян зводзіцца да таго, каб Украіна коштам нашых зямель магла як найхутчэй здабыць сваю самастойнасьць, а Нямеччына адным махам магла: 1) здабыць так неабходны для яе калянізацыйны абшар, 2) расправіцца з маскоўскім камунізмам, 3) палітычна-гаспадарча зьвязаць з сабой багатую і ў будучыні магутную Украіну ды прыбраць у свае рукі Чорнаморска-Балтыцкі шлях і 4) сьціснуць у такім чынам створаных абцугох Польшчу, каб затым нарэшце зьвесьці з ёй свае адвечныя парахункі за Горны Шлёнск і кавалак Надбалтыцкага ўзьбярэжжа, аддзяляючага Нямеччыну ад Усходніх Прусаў.

Канчаючы, можам сьмела сказаць, што ў цэлай гэтай гісторыі Украіна адносна Беларусі адыгрывае паганую, бо даслоўна юдаву ролю.

# Аб рэформе духоўных сэмінарыяў.

I.

Будучыня праваслаўнай Царквы ў Польшчы залежыць, у значнай меры, ад умысловага разьвіцьця і маральнага роўня яе духавенства. Нашыя, даволі скомплікаваныя часы, з іх шматлікімі і разнароднымі пытаньнямі, вымагаюць ад праваслаўнага сьвяшчэньніка саліднае падгатоўкі, featурнабаковай веды і высокага маральнага роўня. Усё гэта сьвяшчэньнік можа атрымаць у добра зарганізованай школе, якая мае за заданьне падгатаўляць кандыдатаў на сьвяшчэнства. Аднак, аднэй вучонасьці для сьвяшчэньніка ня хопіць, калі ён мае быць блізкім, родным і дарагім для сваіх прыходжан. Апрача вучонасьці неабходна яшчэ блізкасьць яго да таго народу, сярод каторага праходзіць яго пастырскае служэньне, неабходна нацыянальная сьвядомасьць і надта добрае знаёмства з абставінамі жыцьця і бытам гэтага народу. Тут у гэтым выпадку, адыгрывае выдатную ролю ня толькі школа, у якой адбываецца ўзгадаваньне будучых пастыраў, але і цяглая лучнасьць іх са сваім народам.

Усё гэта бязспрэчныя праўды непатрабуючыя довадаў.

Калі ад гэтых агульных паняцьцяў аб умовах падгатоўкі добрых пастыраў, мы зьвернемся да запраўднасьці, дык наўрад ці яна нас здаволіць. Мы маем на ўвазе сучасную арганізацыю духоўнага навучаньня, у сучасных духоўных сэмінарыях. Хто знае структуру існуючых сяньня ў Вільні і Крэмянцы Праваслаўных духоўных Сэмінарыяў, той наўрад ці прызнае адпаведнай пастаноўку справы падгатоўкі будучых пастыраў.

1) Абедзьве гэтыя Сэмінарыі да немагчымасьці пераладованы рознымі прадметамі, чаго няма ні ў аднэй сьвецкай сярэдняй школе. Амаль усе гэтыя прадметы навучаюцца ў польскай мове. Беларуская мова ў Віленскай Сэмінарыі і ўкраінская ў Крэмянецкай фігуруюць у іх праграмах, як пасобныя прадметы ў нязначнай колькасьці лекцыяў. Гадунцы ня могуць справіцца з колькасьцяй навуковага матар'ялу а, галоўным чынам, вялікай колькасьцю розных моваў. Гутарыць аб нармальнасьці такіх праграмаў зьяўляецца непатрэбным. Тварцы гэтых праграмаў відаць забылі, што гэта не філёлёгічны факультэт, а сярэдняя школа.

2) Сучасныя Сэмінарыі ў запраўдным сваім выглядзе больш падобны да агульна-навучальнай установы гімназіяльнага тыпу, чымся духоўнай школы ў поўным значэньні гэтага слова. Абсольвэнты гэтых Сэмінарыяў маюць магчымасьць выбару адвольнага факультэту, дык фактычна яны хучэй усяго зьяўляюцца школамі становымі, а не багаслоўскімі. Ненармальнасьць такога стану рэчы даўно шмат кім загледжана, але ніякіх мераў да направы гэтага не прадпрыймалася.

Але вось, у 1932 годзе пачалася генеральная рэформа ўсяго школьніцтва ў Польшчы, якая захапіла такжа і Духоўныя Сэмінарыі. Нажаль нельга сказаць, каб гэтая рэформа Духоўных Сэмінарыяў пайшла па дарозе найбольш пажаданай для Царквы і народу. Па тым весткам, якія ўжо здолелі прасьлізнуцца ў прэсу ў сувязі з уваходзячай у жыцьцё рэформай Духоўных Сэмінарыяў, відаць што рэформа гэтая мае быць зьведзена да поўнай іх ліквідацыі і арганізацыі 3-х гадовага Праваслаўнага Багаслоўскага Ліцэя. Такое вырашэньне пытаньня аб школе для падгатоўкі праваслаўных пастыраў нельга прызнаць мэтазгодным і пажаданым, скіраваньне-ж рэформы на дарогу стварэньня замест існуючых сяньня Сэмінарыяў аднаго Ліцэя ў Варшаве ня толькі ня прынясе карысьці Царкве і веруючаму народу, а хучэй наадварот: паставіць сьвяшчэньніка яшчэ далей ад верных і ў рэзультаце паўстане яшчэ большая сьцяна паміж пастырам і паствою. Бо-ж запраўды, трудна сабе ўявіць блізкасьць да народу такога пастыра, які вучыўся недзе далёка ад роднага яму народу, у Варшаве; у працягу шмат гадоў быў адарваны ад гэтага народу а нацыянальны мамэнт у яго ўзгадаваньні быў зусім занядбаны. Калі да гэтага дадаць яшчэ што і курс 4-х гадовай гімназіі такі кандыдат будзе праходзіць таксама ня ў роднай яму школе і мове, а там, куды яго пашле школьнае начальства, дык небясьпека адарванасьці такога кандыдата ад народу, і сваіх верных, будзе яшчэ больш відавочнай.

II.

Як-жа мае выглядаць адукацыя будучых пастыраў Праваслаўнай Царквы ў Польшчы? Мы ня ведаем дакладна праекта гэтай арганізацыі, але судзячы па вескам, якія дашлі да нас з прэсы, замест сяньняшніх Віленскае і Крэмянецкае Сэмінарыі, як было ўжо вышэй успомнена, маюць стварыць у будучыні Багаслоўскі Ліцэй. Але паўстае пытаньне, хто ў гэты Ліцэй будзе паступаць? для каго ён прызначаны? што трэба скончыць, каб паступіць туды? На гэтыя пытаньні простага адказу пакуль што ня прыходзілася чуць; аднак, асьведамленыя адзінкі кажуць нам, што кадры гадунцоў гэтага Варшаўскага Ліцэя будуць складацца з гадунцоў інтэрнатаў у Вільні й Крэмянцы. Сэмінарыі будуць зачынены, пры чым ліквідацыя іх будзе праводзіцца паступова, кожны год будзе адпадаць па аднэй клясе, але Інтэрнаты застануцца. Інтэрнацкае начальства будзе прыймаць новых гадунцоў і скіроўваць іх у 4-х клясовыя дзяржаўныя (хіба-ж польскія?) гімназіі. У гімназіях яны атрымаюць нармальную адукацыю, а інтэрнат будзе існаваць на тых-жа падставых, што і пры цяперашніх Сэмінарыях. У гэтых інтэрнатах кандыдаты ў Варшаўскі Ліцэй, атрымоўвацьмуць рэлігійна-духоўнае ўзгадаваньне, патрэбнае для будучых пастыраў.

Але калі арганізацыя сярэдняга духоўнага навучаньня зьвядзецца да стварэньня ў Вільні і Крэмянцы толькі адных інтэрнатаў, а ў Варшаве Багаслоўскага Ліцэя, дык можна бяз сумліву сказаць, што адразу-ж адчуецца недахоп адпаведных кандыдатаў, на будучых сьвяшчэньнікаў. Прымаючы пад увагу ўсё гэта справу рэформы духоўнага навучаньня трэба пакіраваць так, каб у выніку яе *ў Вільні* і *Крэмянцы былі зарганізованыя самастойныя Багаслоўскія Ліцэі* з захаваньнем у іх беларускае і ўкраінскае, а таксама і царкоўна-славянскае моваў і пры іх дзяржаўныя інтэрнаты. Што ня будзе спэцыяльных духоўных гімназіяў дык яшчэ не вялікая бяда: бо-ж у Крэмянцы ёсьць украінская, а ў нас у Вільні беларуская гімназія.

Гэтыя гімназіі з пасьпехам могуць падгатовіць кандыдатаў для Багаслоўскіх Ліцэяў. Але трэба даць магчымасьць гэтым кандыдатам карыстацца дзяржаўнымі сродкамі для прабываньня ў гэтых інтэрнатах, якія займуцца падгатоўкай і ўзгадаваньнем будучых ліцэістаў у дусе Праваслаўнай Царквы. Па сканчэньні гімназіяў шмат з іх бяз сумліву паступяць у Багаслоўскія Ліцэі, але зразумела, калі гэтыя Ліцэі будуць не ў Варшаве, а ў вышуспомненых местах. Бо хто-ж захоча ехаць у Варшаўскі Ліцэй, калі будзе мець магчымасьць паступіць у адвольны сьвецкі Ліцэй (і дагэтага толькі 2-х гадовы, а ня 3-х гадовы, як Варшаўскі Багаслоўскі). Здаровы розум падказвае неабходнасьць арганізацыі так Багаслоўскіх Ліцэяў у мясцох існаваньня сучасных Сэмінарыяў г. зн. у Вільні і ў Крэмянцы. Гэтага вымагаюць ня толькі практычныя меркаваньні, але і ідэйныя. Кандыдаты пастырства павінны быць у безпрарыўных, цесных зносінах са сваім народам, яны павінны безпрарыўна адчуваць кроўную сувязь з ім. Толькі такія кандыдаты, стаўшы пастырамі, будуць сапраўднымі духоў-

# Настулька.

*(Расказ)*

(Гл. № 15 „Р. Кр.“).

— Э, ня зусім. Двадцаць тры гады маю. А на гаспадарцы — гэта ня ў горадзе: доўга маладым ня ўбудзеш.

— А чаму вы думаеце, што ў горадзе маладасьць у людзей даўжэй трымаецца?

— Бо нічога ня робяць, дармовы хлеб ды яшчэ што смачнейшае паядаюць.

— А ці вы свой хлеб дарма ў горад даецё? Хто вам казаў, што ў горадзе хлеб— дармовы? —сьмяючыся спыталася Настулька.

— Мне так здаецца ды ўсе тут кажуць, — разважаў Міхась, — што-ж там гэткае рабіць у горадзе?

— А ці вы чытаць умееце?—спыталася Настулька, — я маю гэткія кніжкі, што пра жыцьцё ў вялікіх-вялікіх гарадох там пішацца.

— Чытаць?—зьдзівіўся Міхась. А нашто і калі тут нам чытаць? Мы працаваць мусім.

— Дык вы мо' і ў нядзелю ўсё каля гаспадаркі свае працуеце? Ха-ха-ха! Можа і цяпер вось праца важная ў вас — у сваты прыехалі? — роблена-весела жартавала Настулька.

— Праца ня праца, — мазгаваў Міхась, чацьвёрты раз заварочваючыся назад у канцы вуліцы сьледам за Настулькаю,—але, як бачу, дык з вамі не зговорышся.

— Чаму? хіба ў мяне язык інакшы? — спыталася Настулька.

— Гэткі самы язык, толькі больш кручаны, — адказаў Міхась.

Гутарка ў іх ня клеілася. Снавалі з канца ў канец па ціхенькай вясковай вулічцы, ужо з дзесяты раз мерылі яе павольнымі, сьвяточнымі шагамі, а не дагаварыліся да нічога.

Міхась хацеў улавіць хоць цень сымпатыі да сваіх жаніхоўскіх замераў з боку свае выбранкі, а тая наадварот—адказвала як-бы лёгкім дзявочым зьдзекам на ўсе яго замеры.

Рабілася неяк нудна. Хацеў Міхась проста ўжо спытацца, ці Настулька пайдзе за яго, але ня мог. Адкладаў гэта з кожным паваротам назад, выбіраў нават пункт, дзе гэта скажа, і кожны раз мінаў гэтыя выбраныя пункты, сілкуючыся даць адказ на тыя ці іншыя вострыя словы Настулькі.

Параўняліся з Настульчынаю хатаю, дакладней — з хатаю бацькоў яе.

З вакна даляцелі п'яныя сватавы словы:

— Кажу табе, Пятрусь, аддавай дачку, калі чалавек гэткі, як Міхась, трапляецца; то-ж гаспадарка, гаспадарка ў яго—участак зямлі! І ён адзін, разумееш, а-дзін! Выбачай, трошкі ў лобе чую і проста „Ня ўтрываю—засьпяваю“, як той казаў. Лепшага малайца хіба не дачакаешся...

— Мне што, — спахапіўся Настульчын бацька, — *да вот молодежь теперь какая— не слушает совсем.*

— Ведама, — разводзіў далей сват, — выпясьцілі вы дзяўчыну ў горадзе, у іншым жыцьці, дык і ня слухае. Вувучылі, гімназію, кажуць, прайшла. А скажэце, мае даражэнькія, нашто ёй прыдалася гэтая навука?

Гэтага п'янага сватавага разважаньня ня вытрымала Настулька. Спачатку хацелася ёй ускокнуць у хату і скончыць усё скандалам. Хацелася сказаць „мудраму“ свату, што яму ніякага дзела няма да яе *навукі.* Хай лепш падумае, нашто сам на сьвеце жыве. Ды хай ня лезе ў воду, калі ня ведае броду.

Але дзявочая скромнасьць стрымала гэты парыў гневу, гэткага тонкага, як і ўся яе натура. Яна рашыла лепш перанясьці агонь на жаніха, які, урэшце, ёсьць галоўнаю прычынаю ўсяе гэтае п'янае гутаркі старых.

— Чуеце, — сказала яна Міхасю з мілаю ўсьмешкаю, — які там, у хаце, торг ідзе? Ня меншы, як на конскім рынку. Дык ведайце, мой дарагі, дарма языкі чэшуць. Мне здаецца, што справа датычыць тут толькі вас, ну і, у выпадку мае згоды з вамі, таксама і мяне, а там зараз і аб пасагу баяць пачнуць...

— Не! — спахапіўся Міхась, — я прасіў свата, каб ні слова не казаў аб гэтым...

— Дык мае-ж бацькі самі першыя скажуць аб гэтым, — падхапіла Настулька, — тут ужо звычай гэткі: пакуль тая ці іншая пара маладых людзей ня будзе абскробана языкамі аж да касьцей, дык ні адно вясельле не адбудзецца. Хай сабе плявузгаюць, хоць ахрыпнуць, а толку з гэтага ніякага ня будзе, бо я замуж за вас ня зьбіраюся ісьці.

Яна глянула Міхасю проста ў вочы, у яго праз меру зачырванелы твар, і пагляд гэты, спакойны, ясны і халодны быў куды выразьнейшым за проста сказаныя словы.

Міхасю нешта быццам адлягло на сэрцы: тое, аб чым ён сам хацеў казаць, сказана дзяўчынаю. Ясна ўсё.

— Даруйце, Насьця! Я хачу вас папрасіць, каб вы ніколі, ніколі не злавалі на мяне.

— За што мне злаваць? — адказала Настулька, — наадварот, я жадаю вам шчасьця, гэткага шчасьця, якога вы самі жадаеце сабе...

— Я думаю, што вы будзеце гэтым шчасьцем, — перабіў Міхась.

— Ого! вы зусім добра вядзеце ролю кавалера, хоць і дзівіцеся, нашто чытаць?... Але пойдзем далей аж у канец... у хаце нешта шаптаць пачалі. Хадзем, — кранулася з месца Настулька,—мо' цяпер лягчэй нам гаварыць будзе.

Яны пайшлі ізноў па вуліцы, ціха, роўна, не сьпяшаючы.

Міхась маўчаў. Настулька пачала гаварыць пра тое, што не за адзін год нараспала ў яе душы.

(Працяг будзе).

*Краўцоў Макар.*

